**№71 (1884)**

Пятніца , 23 красавіка 2004 г.

Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Выдавец:
УП «Народная воля»

Кошт свабодны.


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

# Народная Воля


E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by


### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +10...+12, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +13...+15, уначы — +6...+8, на працягу сутак — без ападкаў; у Гродне ўдзень — +10...+12, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +7...+9, дождж, уначы — +3...+5, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +17...+19, без ападкаў, уначы — +7...+9, дождж; у Магілёве ўдзень — +15...+17, уначы — +5...+7, на працягу сутак — без ападкаў.

*www.meteo.by*



## Краіна — мастаку

У раёне Старабарысаўскага тракта, непадалёку ад таго месца, дзе будуецца Нацыянальная бібліятэка, ёсць вуліца імя Фердынанда Рушчыца — мастака, якога шануюць як нацыянальнага генія ў Беларусі і ў Польшчы. 22 красавіка тут была урачыста адкрыта мемарыяльная шыльда работы скульптара Паўла Ваніцкага. На ўрачыстасці бралі слова начальнік Упраўлення культуры Мінгарвыканкама Віктар Кураш, старшыня Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Басалыга, дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў,другі сакратар Польскай амбасады Марыян Семаковіч, а таксама аўтар шыльды.

Партрэт Рушчыца змешчаны на тле арыгінальна пераведзенага ў аб'ёмную пластыку жывапіснага краявіду. Тэкст шыльды паведамляе аб прыналежнасці мастака да дзвюх братніх культур — беларускай і польскай.

Побач з вуліцай Рушчыца — вуліца Ваньковіча. Праз два тыдні і на ёй адбудзецца свята. Вуліцу таксама упрыгожаць мемарыяльная шыльда.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

**На здымку:** *Уладзімір Пракапцоў, Уладзімір Басалыга, Марыян Семаковіч, Павел Ланіцкі.*

**ПАРАЛЕЛІ**

## Мінск можа пазбавіцца аднаго са сваіх манументальных экзотаў «эпохі сацыялістычнага рэалізму»

У апошнія гады існавання СССР абараняць савецкія помнікі ў рэспубліках Прыбалтыкі даводзілася вайсковаю сілаю. Памятаю газетны здымак: помнік генералу Чарняхоўскаму ў Вільні, а побач з ім — узброеныя вайскоўцы на бронетранспарцёры.

У Беларусі да гэтага не даходзіла, але дыскусія адносна лёсу савецкай манументальнай спадчыны ў нас была даволі гарачай. Але далей слоў справы не пайшлі. Ніводны помнік Леніну ці яшчэ якому наменклатурнаму бальшавіку за гады Незалежнасці не дэмантаваны, бо гэта было б ударам па афіцыйнай ідэалогіі, якая грунтуецца на "савецкіх каштоўнасцях". І ўсё ж у бліжэйшы час Мінск можа пазбавіцца аднаго са сваіх манументальных экзотаў эпохі "сацыялістычнага рэалізму". Будынак на праспекце Машэрава, які не адно пакаленне мінчукоў ведае як Дом мадэляў, мае на фасадзе велізарную рэльефную кампазіцыю на тэму міжнароднай салідарнасці працоўных работы вядомага скульптара Анатоля Арцімовіча. Кіраўніцтва ўстановы, якой належыць будынак, мае намер замяніць рэльеф на інфармацыйнае табло. Знайшлі і аргумент на карысць сваёй ідэі. Маўляў, такое палітызаванае мастацтва не стасуецца з храмам, што стаіць побач. Не зразумела, праўда, наколькі гарманічным будзе суседства храма і вялізнага экрана, на якім будзе рэкламавацца прадукцыя Цэнтра моды, у тым ліку рэчы для пляжу і спальні. Ды і Хрыстос, памятаеце, лічыў суседства храма з крамаю ненармальным, прычым змагаўся з непажаданымі суседзямі нязвыклымі для сябе гвалтоўнымі сродкамі.

Я не аматар камуністычных ідэй і мастацтва "сацыялістычнага рэалізму", але, на мой погляд, пытанне, што лічыць помнікам гісторыі і культуры, а што — не, мусяць вырашаць кампетэнтныя асобы. Эпоха, што скончылася са сконам СССР, ужо стала часткай нашай гісторыі, і яе рэліквіі ў новым кантэксце набываюць новы сэнс. Зрэшты, гэты рэльеф — твор унікальны для нашага мастацтва тэхнікаю выканання. Калі ён знікне, не будзе як патлумачыць на канкрэтным прыкладзе студэнтам мастацкай акадэміі, як робіцца з металу вялікі рэльеф.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ.**

**ЭКОНОМИЧЕСКИЙ БАРОМЕТР**

## За дивиденды можно купить лишь льготный талончик на проезд

По 117 рублей в год на одну акцию получат акционеры ОАО "Гродно Азот". С таким размером дивидендов каждая акция окупится за 478(!) лет.

Такое решение было принято на последнем собрании акционеров предприятия, которое впервые решало вопрос о размере дивидендов. Пенсионеру, который купил одну акцию, 117 рублей как раз хватит на льготный талончик, чтобы доехать до завода, говорит председатель независимого профсоюза ОАО "Гродно Азот" Сергей Антусевич. Цена акции для работников завода составила в прошлом году 56 тысяч рублей. Акции завода выкупили только 576 работников из более чем 11 тысяч человек, которые имели на это право. В основном люди покупали по одной-три акции. Коллектив выкупил немногим более 500 акций, что составило пакет всего в 0,036%. Основной пакет акций, более 99%, — в руках государства, им управляет концерн "Белнефтехим".

На последнем собрании акционеров, где решался вопрос о дивидендах, присутствовало около 300 работников-акционеров. И только один из них осмелился выразить возмущение тем, что его голос не влияет на решения.

— На этом собрании работники наконец поняли, что они больше не хозяева своего предприятия, — говорит Сергей Антусевич. — Что все они, в том числе и руководство, и те, кто отдал заводу 30 лет жизни, — это всего 0,036%. Даже если бы на собрании присутствовали только представители концерна и ни одного работника предприятия, то оно все равно было бы легитимным! Наш профсоюз предупреждал об этом 2 года назад, когда было принято решение об акционировании предприятия. И наша позиция не изменилась, она единственно верная для организации, которая защищает интересы работников, потому что сейчас защищать эти интересы стало гораздо сложнее. В Польше при "дикой приватизации" коллективу отдавалось 10% акций, и никто даже не задумывался о том, что это может быть неправильно. А при 10% коллектив мог бы выдвигать своего представителя в Наблюдательный совет. Сейчас для нас это совершенно закрытый орган.

*praca-by.info*

**ГОРЬКО!**

## Рецепт выздоровления

**Людмила ГРЯЗНОВА**

В коридоре эндокринологического диспансера, заполненного больными, жутко закричала женщина. Сначала никто ничего не понял. Нечеловеческий крик всех привел в оцепенение. Отойдя от шока, люди увидели, что ее сын повалился на бок, потеряв сознание. Женщина подумала, что он умер, и пыталась своим криком вернуть его к жизни. Кто-то позвал врача. Из кабинета выскочила медсестра, дала мальчику нашатыря и набросилась на мать. Чего кричишь, не знаешь о болезни сына — диабете! На голодный желудок в спертом помещении у ребенка, страдающего диабетом, такое может случиться.

Мальчик пришел в сознание и стал пить воду. Мать суетливо жестикулировала и что-то невнятно бормотала. Видно было, что молодая женщина, замученная болезнью сына, сама нуждается в помощи врача.

Сидевшие вокруг больные горестно задумались о мальчике и собственной судьбе. Еще лет двадцать назад мало кто знал об анализе, который они сейчас должны были сдавать. До чернобыльской катастрофы люди тоже болели, но теперь стали болеть во много раз больше и сдавать диковинные анализы. Жизнь превратилась в хрупкую нить, способную оборваться в любой момент.

Не полагаясь на заботу государства, граждане стали обращаться к врачам и искать помощи в поликлиниках. По утрам, когда раздаются талончики, поликлиники напоминают дефицитные магазины доперестроечных времен. Покорные больные стоят в длинных очередях, желая получить заветные талончики. Иногда приходится занимать очередь с шести часов утра. К таким специалистам, как невропатологи и эндокринологи, пробиться почти невозможно. Чтобы сдать некоторые анализы, надо записываться за три месяца вперед. Но на этом мытарства больных не заканчиваются. Счастливчики, держащие в руках результаты анализов и талончики к врачу, еще должны попасть на прием. Среди больных у дверей врача происходит настоящая "коррида". Одни считают, что очередность определяется временем, указанным в талончике, другие — живой очередью. Кто-то проскакивает просто так, кого-то врач вызывает сам. Если за два-три часа удается войти в заветный кабинет, то считайте, что вам повезло.

Но, замученный вереницей больных, врач слабо вникает в вашу историю, пытаясь за шесть минут осмотра прописать стандартные лекарства. На индивидуальный подход надеяться не приходится. Ваше счастье, если у вас стандартный случай. Если что-то специфическое, то вам, не исключено, придется страдать от неправильно назначенного лечения.

Главный и самый лучший совет врача — хорошо питаться и не волноваться — вдребезги разбивается о ваш ограниченный бюджет и нервную работу. От зарплаты после оплаты коммунальных услуг почти ничего не остается. О каком полноценном питании можно говорить, если у большинства на день приходится по два доллара!

Что делать, как сохранить себя и свое здоровье в таких условиях? Да, можно материнским криком вернуть сына из небытия. Приложить нашатырь и дать напиться воды... до следующего обморока. Да, можно сдать анализы, узнать о гормональном составе крови. Убедиться, что пока нет смертельной опасности — у многих такие же показатели. Да, можно прорваться к врачу и получить рецепты. Пить годами лекарства и дрожать за каждую копейку тающего на глазах семейного бюджета.

Так может быть, стоит подумать, что болезнь каждого — не особый случай, вызванный наследственностью или личными неурядицами, а вызвана она общей причиной — социальным Чернобылем! Чернобылем, взорвавшимся в апреле 1996 года, и социальным устройством, установившимся в июле 1994 года.

Одинокие материнские крики и индивидуальные посещения поликлиник ничего не изменят. Социальные болезни лечатся сообща. Только народ может заставить власть отчитаться за миллионы долларов, потраченных на объекты не первой необходимости, а не на больницы. Только народ может заставить власть вернуть теневые доходы, украденные из наших пенсий и зарплат. Только народ может спасти мальчика и тысячи жизней взрослых и детей в стране.

26 апреля, в последний понедельник месяца — очередная годовщина страшной трагедии.

Чернобыльский шлях — это не акция оппозиции, это народная манифестация, вобравшая боль миллионов людей и надежду на выздоровление нации. У инициаторов нынешнего Шляха нет возможностей для распространения информации по радио и телевидению, нет газет для объявлений, нет автобусов для подвоза участников. Поэтому обращаемся к каждому гражданину Республики Беларусь с просьбой передать информацию о Чернобыльском шляхе родственникам, коллегам, соседям и просто прохожим. Придя на Чернобыльский шлях, мы можем доказать себе и всем, что мы — народ, способный избавляться от социальных болезней, имеем право "людзьмі звацца".

**ПУЛЬС**

### На сесіі ПАСЕ зноў беларуская тэма

Пераслед СМІ і расследаванні спраў зніклых у Беларусі людзей будуць абмяркоўвацца на вясновай сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы, якая пройдзе ў Страсбургу (Францыя) з 26 па 30 красавіка.

Як паведамляе прэс-служба Савета Еўропы, слуханні па гэтых пытаннях пройдуць 28 красавіка.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

### Джордж Крол сустрэўся з Аляксандрам Шчурко

Пытанні барацьбы з міжнароднай злачыннай дзейнасцю, у тым ліку з незаконным гандлем людзьмі, абмяркоўваліся на сустрэчы першага намесніка міністра ўнутраных спраў Беларусі **Аляксандра Шчурко** з паслом ЗША ў Беларусі **Джорджам Кролам**.

А.Шчурко зазначыў, што злачынная дзейнасць па гандлі рабамі набыла міжнародны характар, таму паспяховая барацьба з гэтай з'явай магчыма толькі пры ўмове цеснага супрацоўніцтва ўсіх дзяржаў.

Пасол ЗША, са свайго боку, паведаміў, што Злучаныя Штаты надаюць вялікае значэнне забеспячэнню эфектыўнага міжнароднага ўзаемадзеяння па пытаннях барацьбы з гандлем людзьмі, што атрымала шырокае распаўсюджванне.

Як было зазначана на сустрэчы, паміж беларускімі і амерыканскімі праваахоўнымі органамі наладжана канструктыўнае супрацоўніцтва па барацьбе з гэтымі і іншымі небяспечнымі міжнароднымі злачынствамі, якое ўжо дало практычныя вынікі ў выглядзе прадухілення дзейнасці шэрагу злачынных груп.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

### Бібліятэку імя Леніна перайменаваць у бібліятэку імя Васіля Быкава немэтазгодна — лічаць чыноўнікі Віцебскага аблвыканкама

Віцебскі аблвыканкам лічыць немэтазгодным наданне імя народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава Віцебскай абласной бібліятэцы імя Уладзіміра Леніна. Як паведамілі ў незарэгістраванай Асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацый Беларусі, аб гэтым гаворыцца ў адказе ўпраўлення культуры Віцебскага аблвыканкама на запыт групы віцябчан наконт пытання перайменавання абласной бібліятэкі імя Леніна ў гонар нараджэнца вёскі Бычкі Ушацкага раёна Віцебскай вобласці Васіля Быкава.

Чыноўнікі лічаць, што *"напярэдадні святкавання 60-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў немэтазгодна перайменоўваць дзяржаўную ўстанову "Віцебская абласная бібліятэка імя У.І.Леніна", бо гэта справакуе супрацьстаянне ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны".*

Па словах дырэктара абласной бібліятэкі Аляксандра Сёмкіна, у гэту ўстанову прыйшлі тры лісты, у якіх ветэраны вайны выказваюцца катэгарычна супраць змянення цяперашняй назвы бібліятэкі.

Ва ўпраўленні культуры аблвыканкама пацвердзілі факт некалькіх тэлефонных званкоў ад ветэранаў. Прычым некаторыя з іх былі досыць агрэсіўнымі.

**Марат ГАРАВЫ.**

### Візы ў Польшчу патаннелі ўдвая

МЗС Беларусі нагадвае, што з 1 мая ўступаюць у сілу два новаўвядзенні ў працэдуру ўезду беларускіх грамадзян у Польшчу.

З названай даты, паводле ўзгаднення бакоў і на аснове прынцыпу ўзаемнасці, удвая зменшаны кошт беларускіх і польскіх віз: за аднаразовую візу неабходна будзе ўнесці **5 еўра,** за двухразовую — **8 еўра** і за шматразовую тэрмінам на адзін год — **24 еўра.**

Акрамя таго, з 1 мая ўступае ў дзеянне новы парадак уезду іншаземцаў. У адпаведнасці з ім, іншаземец, які ўязджае на тэрыторыю Польшчы, павінен паказаць пагранічным войскам страхавы поліс, які пакрывае, у выпадку неабходнасці, кошт лячэння ў Польшчы, або арыгінал запрашэння.

У выпадку адсутнасці названых дакументаў іншаземец павінен прад'явіць пры ўездзе ў Польшчу суму ў аб'ёме не менш за 300 злотых на кожны дзень знаходжання ў Польшчы або раўназначную квоту ў замежнай валюце. Пацвярджэннем наяўнасці фінансавых сродкаў можа быць адкрыты рахунак у польскім банку, а таксама наяўнасць сапраўднай плацёжнай банкаўскай карты.

Новы парадак перасячэння беларуска-польскай мяжы будзе распаўсюджвацца на ўсе катэгорыі грамадзян Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і на тых, хто ўжо мае польскія візы, выдадзеныя раней. Выключэнне складаюць толькі грамадзяне, якія едуць цераз тэрыторыю Польшчы транзітам.

**Андрэй СЕРАДА.**



**ЗАКУЛИСЬЕ**

# Идеологическая «неотложка» от Радькова

### Судя по всему, министр образования Беларуси Александр Радьков делает все для того, чтобы вызвать недовольство со стороны студентов и профессорско-преподавательского состава

В начале апреля Радьков *"в целях совершенствования учебно-воспитательного процесса и организации идеологической работы в высших учебных заведениях"* подписал приказ ***"О неотложных мерах по организации идеологической работы в вузах"*** и утвердил соответствующий ***"План неотложных мер".*** Вот лишь некоторые пункты данного документа (стилистика и грамматика документа сохранены).

**** "Усилить работу среди студентов и профессорско-преподавательского состава по пропаганде государственной символики, института президентства и роли личности президента Республики Беларусь в решении общегосударственных задач и как олицетворения единства нации, обеспечивающего политическую и экономическую стабильность страны".***

**** "Обеспечить контроль за содержанием наглядной агитации, стенной печати, студенческих и вузовских газет, за пользованием внутривузовской сети ИНТЕРНЕТ".***

**** "Обеспечить четкую и строгую систему пропуска в учебные корпуса и общежития студентов, не допуская проникновения в них посторонних лиц".***

**** "Не допускать в учебных заведениях деятельность незарегистрированных общественных объединений".***

**** "Усилить контроль за поступлением средств из различных общественных и зарубежных фондов, за реализацией международных образовательных программ, финансированием обучения и стажировок, временного трудоустройства белорусских студентов за пределами страны".***

**** "Подготовить совместно с МВД постановление по совершенствованию направления граждан РБ на работу по студенческим программам, предусмотрев соблюдение высшими учебными заведениями неукоснительного выполнения учебного плана, не допуская предоставления академических отпусков в связи с выездом на работу за границу, несвоевременного возвращения к началу учебных занятий, предоставления досрочной сдачи сессии по причине выезда на работу за границу".***

**** "Осуществить экспертный анализ подписанных прямых межвузовских договоров с другими государствами на предмет их научной и методической результативности и целесообразности".***

**** "Провести анализ подписки на периодические издания с целью увеличения тиражей на государственные периодические издания".***

**** "Оказать научно-методическое и организационное содействие первичным организациям общественного объединения "Белорусский республиканский союз молодежи".***

Несмотря на то, что приказ был подписан 1 апреля, смеяться почему-то совсем не хочется. Тем более не так давно нечто подобное мы уже проходили... Впрочем, аналитик **Александр Федута,** в прошлом — учитель русского языка, с этим не совсем согласен.

*"Потому что ни на одной политинформации не изучали биографию Леонида Ильича Брежнева и не говорили о том, что он является символом единства нации,* — говорит он. — *Речь шла о партии, которая определяла идеологию. А сегодня идеологии нет. То, что предлагается, как раз демонстрирует полное отсутствие идеалогии. И папа Лукашенко осточертеет больше, чем дедушка Брежнев и дедушка Ленин вместе взятые...*

*Я не знаю, за что министр Радьков подвергает главу государства такому издевательству. Вы представляете, сколько народа будет ненавидеть президента? Раньше вся эта студенческая масса большей частью была индиффирентна, а сейчас она будет активно ненавидеть... Искренне не понимаю, почему господин Радьков, который никогда не производил впечатление дурака, принимает такие решения. Их последствия для власти, последствия неприятия власти и государственного образования будет трудно переоценить..."*

Директор Независимого института социально-экономических и политических исследований профессор **Олег Манаев** не первый год читает лекции на факультете философии и социальных наук БГУ. И полагает, что вышеназванный приказ ни на что существенно не повлияет.

*"Введение единой государственной идеологии в систему высшего образования началось не с приказа Радькова,* — говорит Олег Тимофеевич. — *Эта кампания стартовала еще в прошлом году. Но на данный момент серьезных изменений ни в учебных планах, ни в повседневной студенческой или профессорско-преподавательской жизни я не заметил. Мне кажется, многие из перечисленных пунктов приказа будут существовать лишь на бумаге. Насколько я прав, покажет время... Сейчас трудно сказать, кинутся ли ректоры, деканы и другие руководители, как Александр Матросов, на амбразуру — все это исполнять. Почти год уже идет разговор о государственной идеологии, но существенных подвижек я не наблюдаю.*

*Что касается ревизии межвузовских договоров, то я знаю, что на самом деле работающих международных программ, в которые входили бы обмены студентами, долговременные стажировки наших преподавателей за границей, совместные исследовательские проекты, очень немного. В каждом вузе на пальцах одной руки можно пересчитать проекты, поддерживаемые европейскими программами "Тасис" или "Темпус". Поэтому, если все сведется к тому, что их поставят в такие условия, из-за которых западные партнеры вынуждены будут от них отказаться, система высшего образования и республика в целом лишатся тех немногих ниточек, которые связывают Беларусь с цивилизованным миром. А в этом, по большому счету, не заинтересовано само руководство страны".*

Депутат, руководитель общественного объединения "Яблоко", кандидат философских наук **Ольга Абрамова** считает, что лишать студентов возможности подзаработать за границей — не морально и не рационально с точки зрения интересов государства.

*"Основное дело студента, конечно, учеба,* — говорит Ольга Михайловна. — *Очень многие студенты учатся платно или полуплатно. Я не знаю, как обмены, стажировки и прочие выезды за границу согласуются с внутривузовской дисциплиной, однако надо помнить о том, что разовые выезды на работу за рубеж (учитывая ограниченный внутренний рынок труда) для некоторых чуть ли не единственная возможность оплатить учебу. Лишать молодых людей такой возможности просто не морально и не рационально с точки зрения интересов государства. И в тех ситуациях, когда молодые люди, не желая ни от кого зависеть, ездят на подработки, а потом платят за образование своему родному государству, столь жесткие подходы, наверное, не оправданы.*

*Что касается единой государственой идеологии, то лично я хотела бы видеть ее в системном виде, чтобы можно было квалифицировать, о чем идет речь, понять, на что ориентироваться гражданам, ученым, масс-медиа...*

*Пропаганде института президентства сегодня действительно уделяется большое внимание. Но, на мой взгляд, было бы хорошо, если бы государство продвигало ценность той или иной формы правления не методом вбивания в сознание сограждан ценности этого института как гаранта стабильности и государственности, а реальными поступками и действиями. На одних нормативных актах далеко не уедешь..."*

Пункт в приказе Радькова об *"увеличении тиражей на государственные периодические издания"* лишний раз говорит об уничтожении независимой прессы в Беларуси. Так считает шеф-редактор газеты "Свободные новости" **Александр Улитенок**.

*"Негосударственные издания уже фактически вычеркнуты из бюджетных раскладов государственных организаций и особенно — высших учебных заведений,* — говорит Александр Леонидович. — *Негосударственных общенациональных изданий вообще остался сущий мизер. В последние годы мы наблюдаем тенденцию к уничтожению тиражей независимой прессы, в том числе и через подписку. Не за горами парламентские и президентские выборы. Видимо, господин Радьков прекрасно знает устремления своих руководящих земляков...*

*По моим личным наблюдениям, молодые люди сегодня практически не читают газет. Они не читают независимую прессу, потому что она фактически истреблена. И не читают государственную, потому что их не устраивает ее низкое качество.*

*Уничтожена конкурентоспособная среда, которая существовала благодаря независимым средствам массовой информации. Образованная молодежь моментально просекает, что произошла девальвация печатной строки. И отсюда невнимание к государственной прессе, которая им насильственно всучивается. Это, мягко говоря, невнимание — нормальная реакция молодого здорового ума на нездоровые усилия некоторых чиновников..."*

**Марина КОКТЫШ.**

*Александр Радьков.*

00027626

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
ЗАГАД

МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ
РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ
ПРИКАЗ

01.04.2004 № 283

г. Мінск

О неотложных мерах по организации
идеологической работы в вузах

В целях совершенствования учебно-воспитательного процесса и организации идеологической работы в высших учебных заведениях

ПРИКАЗЫВАЮ:

1. Утвердить план неотложных мер по организации идеологической работы в учреждениях, обеспечивающих получение высшего образования, согласно приложению, и организовать его исполнение в установленные сроки.

2. Ректорам учреждений, обеспечивающих получение высшего образования, представить в Министерство образования информацию о принятых неотложных мерах по организации идеологической работы.

Срок исполнения – до 12.04.2004.

3. Контроль за выполнением приказа возложить на заместителя Министра Т.Н.Ковалеву.

Министр А.М.Радьков

ВІНШУЕМ!

## Заўтра, 24 красавіка, Зянону Пазьняку спаўняецца 60 гадоў

# З ідэяй і верай

Калі сыходзіць з прынцыпу моднай цяпер тэорыі "рэальнай палітыкі", дык уся ягоная дзейнасць можа быць ацэненая як суцэльны пройгрыш. Ён так і не ўзяў уладу (хаця наўрад ці сам думаў, што гэта рэальна). Ён так і не здолеў пазбавіць свой народ залежнасці ад Расіі, чаго найбольш дамагаўся і ў чым не ведаў кампрамісу. Існуе нават спрэчнае меркаванне, што менавіта ягоная радыкальная пазіцыя справакавала надыход яшчэ большай імперскай рэакцыі, і парасткі беларушчыны, якія ён сам узгадоўваў, былі панішчаныя, каб узнавіцца толькі праз дзесяцігоддзі.

Але без яго і сама беларуская ідэя магла б сканаць задоўга да таго, як новае пакаленне пачне яе ўвасабляць у рэальнасць. Пройдзе час, і ягоныя ворагі ды нядобразычліўцы застануцца ў нацыянальнай гісторыі і народнай памяці толькі з-за датычнасці да ягонай асобы і ніяк інакш. У тым выпадку, зразумела, калі захаваецца сама нацыя.

Гэта — пра Кастуся Каліноўскага; але часам гістарычныя паралелі дапамагаюць ацэніць і ролю сучаснікаў...

Уражвае, як выразна лёс сям'і Пазьняка адлюстраваў трагізм беларускага народа ў XX стагоддзі. Ягоны дзед Ян Пазьняк быў лідэрам Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі (БХД), а затым — Беларускага Народнага Аб'яднання (БНА) — беларускіх партый, якія дзейнічалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Яшчэ ў 1931 годзе БХД заявіла, што "будучыню беларускага народа не зможа і не павінен вырашаць ані камунізм, ані фашызм, ані капіталізм, а толькі сам Беларускі народ". Ян Пазьняк падвяргаўся пераследу з боку польскіх уладаў, а ў кастрычніку 1939 года быў арыштаваны органамі НКВД і расстраляны. Ягоны сын Стась (бацька Зянона) загінуў на фронце ў Чырвонай Арміі ў снежні 1944 года; яму было дваццаць два гады. Другі сын Яна Пазьняка, Янка, быў угнаны на працу ў фашысцкую Нямеччыну і бясследна знік. Брат маці Пазьняка, Яська (дзядзька Зянона), прайшоў усю вайну з 1941-га і згарэў у танку ва Усходняй Прусіі ў лютым 1945-га. (Потым, у канцы 80-х, афіцыйная прапаганда будзе шырока распаўсюджваць і падтрымліваць плётку, што нібыта "Пазьняк — сын фашыста"; ніводны рэдактар "перабудовачных" дзяржаўных газет не пажадае надрукаваць абвяржэнне).

У 60-х гадах Пазьняк быў адным з тых нешматлікіх (Міхась Чарняўскі, Лявон Баразна, Алесь Разанаў), хто ў поўную сілу паўстаў у абарону беларускай мовы. Яго некалькі разоў выключалі з інстытута і выганялі з працы — прычым выганялі так, што ўладкавацца на іншую працу не было магчымасці. Доўгі час (амаль два гады) ён перабіваўся разгрузкай вагонаў на чыгунцы, іншымі выпадковымі працамі ды на ўласным вопыце спазнаў, што такое голад ў самым простым яго значэнні. Днямі Зянон Станіслававіч прызнаўся мне, што ў тыя гады не казаў сваёй маці пра тыя выключэнні ды пераслед, шкадуючы яе — і калі гэтая публікацыя патрапіць да Ганны Яўхімаўны, яна даведаецца пра ўсё гэта ўпершыню.

Сёння Пазьняк прыгадвае, хто падтрымаў яго ў той час — Максім Танк (ён дапамог аднавіцца ў інстытуце), ды Генадзь Бураўкін, тагачасны карэспандэнт "Праўды". Менавіта з дапамогай Бураўкіна ў 1969 годзе дваццаціпяцігадовы Пазьняк друкуе артыкул ў абарону забудовы Нямігі, якая, паводле жадання першага сакратара ЦК КПБ Пятра Машэрава павінна была быць зруйнаваная. Знішчыць ушчэнт хацелі не толькі Нямігу — на плане сацыялістычнай рэканструкцыі цэнтра Мінска не было месца нават будынку Купалаўскага тэатра. Пазьняк прапанаваў падпісацца пад артыкулам некалькім дзесяткам дзеячам творчай і навуковай інтэлігенцыі; пагадзіўся толькі Лявон Баразна. Публікацыя ў "Праўдзе" — органе ЦК КПСС — успрымалася як дырэктыва; Машэраў быў разгневаны, але гістарычны цэнтр Мінска ўратавалі (на жаль, не ўвесь). Потым Пазьняку адпомсцілі за тую публікацыю. А Лявон Баразна праз тры гады быў забіты; як заявіла следства — выпадковымі хуліганамі.

Паралелі біяграфіі Пазьняка з лёсам шмат якіх дысідэнтаў ва ўсходнееўрапейскіх краінах наводзяць на пытанне — а чаму яна, гэтая біяграфія, не мела вяршыняй тое, што сталася з Вацлавам Гавалам у Чэхіі, Лехам Валенсам у Польшчы ці Жэлю Жэлевым у Балгарыі — вышэйшую уладу? І чым далей, тым часцей у мяне пытаюцца — чаму ж вы, дэпутаты Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканння, не ўзялі ўладу? Чаму Пазьняк не стаў прэзідэнтам?

У такім выпадку я адказваю: ён дасягнуў большага, чым прэзідэнцтва — аднавіў дзяржаву, і не кожнаму прэзідэнту выпадае такі лёс. Ён стаў на чале той хвалі нацыянальнага адраджэння, якая вярнула Беларусі незалежнасць. І я прашу назваць лепшы палітычны вынік пасля 25 сакавіка 1918 года.

Напрыканцы 80-х гадоў толькі зацятыя аптымісты маглі верыць, што беларуская нацыя адродзіцца. Здавалася б, прагматыку (а менавіта адсутнасць прагматызму ставілася Пазьняку ў віну) — спадзявацца на нешта іншае не выпадала. Не было ніводнай беларускай школы ў сталіцы дзесяцімільённай краіны, а імёны Ластоўскага, Крэчэўскага, Тарашкевіча, ці пра бел-чырвона-белы сцяг ведалі хіба некалькі дзесяткаў чалавек. Не нашмат большая колькасць казалі пра тое, што Беларусь можа і павінна быць незалежнай. Два стагоддзі расійскай імперскай асіміляцыйнай палітыкі, а затым семдзесят гадоў камунізму прымусілі большую частку народа забыцца пра сваё мінулае.

Адсяканне гістарычнай памяці — гэта першае, што трэба зрабіць з народам, калі хочаш пазбавіць яго будучыні.

Новая хваля нацыянальнага Адраджэння пачалася з публікацый Пазьняка пра Курапаты; потым былі ўтварэнне "Мартыралогу" і БНФ, праўда пра Чарнобыль і словы пра беларускую Незалежнасць — усё гэта на працягу двух-трох гадоў істотна змяніла ментальнасць беларускага грамадства. Лепшай яго часткі — але, на жаль, не арыфметычна большай.

Цяпер я вымушаны пагадзіцца з нашымі камуністычнымі апанентамі пятнаццацігадовай даўніны: беларускі народ (калі разумець пад гэтым тэрмінам насельніцтва, ягоную большую частку) не імкнуўся да незалежнасці; яго, пераважна, задавальняла жыццё ў імперыі. Пытанне, аднак, у тым, ці заўсёды мае рацыю большасць, асабліва калі яе пазбавілі памяці ды прымусілі дбаць выключна пра кавалак хлеба.

Бо быў і іншы беларускі народ — пакаленні, што загінулі ў змаганні за незалежнасць, у якіх былі Каліноўскі, Багушэвіч, Купала, але якіх абставіны пазбавілі шанцу на поспех. Такі шанц быў скарыстаны ў жніўні 1991 года — некалькімі дзесяткамі дэпутатаў ВС 12-га склікання пры падтрымцы 50 тысяч грамадзян на плошчы перад Домам урада. Гэта — менш чым адзін працэнт насельніцтва, але гэта той працэнт, дзе былі Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін, Артур Вольскі, Уладзімір Арлоў, Яўген Кулік...

Далей была праца Апазіцыі БНФ у парламенце — і дзесяткі законапраектаў, з якіх толькі малая частка была прынятая пракамуністычнай большасцю. Але і гэтага хапіла, каб Беларусь некалькі гадоў падыхала паветрам Свабоды — і нарадзіла новае пакаленне, якое ўжо ніколі не пойдзе ў імперыю ці ў камуністычны лагер. Пачалася хваля беларусізацыі, утваралася прадпрымальніцтва, пра Беларусь пачалі казаць у свеце. Апазіцыя БНФ і Ценявы кабінет Фронту распрацавалі праграму адбудовы краіны. Тут я нагадаю, што прапаганда настойліва ўбівала ў грамадскую свядомасць думку, што Фронт займаецца выключна "беларускай мовай"; тым часам БНФ распрацаваў канцэпцыю пераходу да рынку, законы аб зямлі, аб банках і банкаўскай сістэме, закон аб нетрах, блок законапраектаў па вайсковай рэформе, і яшчэ некалькі дзесяткаў падобных законапраектаў). У Беларусі былі ўсе шанцы, каб вярнуцца ў цывілізаваны свет. Так і было б — усяго толькі пры адной, але абавязковай умове. Калі б усе палітыкі, незалежна ад іх партыйнай афарбоўкі, выспавядалі б ідэю незалежнасці Беларусі. Але — так не здарылася.

Віна і гістарычная адказнасць "маладых ваўкоў", якія падтрымалі ў 1993—1994 гадах Лукашэнку — не толькі ў тым, што яны вылучылі свайго апанента лідэру дэмакратычнай апазіцыі. Яны падтрымалі чалавека, які ўжо ў верасні 1993 года заявіў, што Беларусь фактычна аб'яднаецца з Расіяй. У тую ж восень 93-га пра небяспеку, якую нясе Лукашэнка, у "Народнай газеце" сказаў Быкаў. Але ў той момант тую кампанію цікавілі не Быкаў і не Беларусь, а выключна ўласныя амбіцыі. Народ яшчэ толькі пачынаў абуджацца, яшчэ толькі падыходзіў да ўсведамлення каштоўнасці суверэннага існавання — яму б дапамагчы ў гэтым — яны ж пачалі падыгрываць імперскім сілам, фактычна выступаючы супраць незалежнасці сваёй дзяржавы.

У цывілізаваных краінах дзеянні, накіраваныя на скасаванне дзяржавы, ляжаць у плоскасці ўжо не палітычнай і маральнай, а прававой ацэнкі. Беларусь у гэтым сэнсе ўяўляла сітуацыю унікальную.

Прынята лічыць, што выбары 1994 года былі свабоднымі, і што Лукашэнка з Пазьняком мелі роўныя магчымасці ў перамозе над Кебічам. Гэты падыход не ўлічвае адной акалічнасці, прычым вызначальнай. А менавіта: афіцыйная "кебічаўская" прапаганда і цалкам манапалізаваныя тэлебачанне і радыё выступалі з асуджэннем распаду СССР, за аб'яднанне з Расіяй (прыгадаем, якая кампанія вялася за аб'яднанне грашовых сістэм), супраць беларусізацыі (прыхільнікі беларушчыны атаясамліваліся з фашыстамі). Усё гэта было на карысць Лукашэнку з ягонымі імперскімі планамі — фактычна Кебіч і Лукашэнка падыгрывалі адзін аднаму, розніца была хіба ў персаналіях (як трапна запытаўся ў "Свабодзе" незабыўны Ігар Гермянчук перад другім турам галасавання, пытанне палягала ў тым: ці паб'е сын бацьку? Пабіў. І працягнуў справу з новым імпэтам).

І ці выпадковая заканамернасць: і ў іншых постсавецкіх краінах, дзе да пачатку 90-х гадоў большая частка насельніцтва не саспела да ідэі дзяржаўнасці, — нацыянальныя лідэры да ўлады не прыйшлі (ва Украіне не перамог Вячаслаў Чарнавіл, і гэта пры даволі высокім узроўні нацыянальнай самасвядомасці). І наадварот: аналіз сведчыць, што там, дзе нацыя ўсведамляла ідэю незалежнасці, дзе яна была гатовая пайсці на ахвяры — яна прыводзіла да ўлады менавіта нацыянальна арыентаваных лідэраў, і толькі прайшоўшы этап, калі хочаце, "нацыяналізму", краіны ўвайшлі ў сям'ю еўрапейскіх народаў.

Уся далейшая палітычная тэхналогія Лукашэнкі пасля выбараў 1994 года палягала якраз у падтрымцы прасавецкай, праімперскай ментальнасці ў як мага большай частцы насельніцтва. У гэтым — і тлумачэнне ліквідацыі "Пагоні" і бел-чырвона-белага сцяга як дзяржаўных сімвалаў, і ліквідацыі беларускіх школ, і перапісвання падручнікаў, і пераводу электронных СМІ на расійскую мову. Лукашэнка і тыя, хто стаіць за ім, цудоўна разумеюць тое, што не разумеюць многія іх апаненты: галоўнае — гэта ідэя. І таму Пазьняк застаецца для ўлады самым галоўным ворагам.

Зрэшты, мае нататкі пра Пазьняка носяць выключна гістарычны, рэтраспектыўны характар. Некаторыя палітолагі, якія яшчэ нядаўна палохалі беларускім нацыяналізмам, а сёння ўжо прызналі, што ўвесь "нацыяналізм" — у жаданні жыць самастойна і размаўляць на роднай мове, — менавіта так і ацэньваюць ягоную ролю: выключна ў мінулым. Але ёсць і іншыя меркаванні. Адно з іх выказаў Васіль Быкаў у інтэрв'ю журналісту Віталю Тарасу для Радыё "Свабода" ў маі 2001 года:

"Падобна, час Пазьняка яшчэ не настаў, хаця можа падацца, што ён мінуў. Гістарычным гадзіннікам у гэтай справе з'яўляецца электарат. Звычайна электарат рэагуе на прымітыўныя ісціны і практычныя мэты. Нацыянальная ж ідэя для яго, электарату, апынулася празмерна экзатычнай, малазразумелай. А галоўнае, яна запатрабавала пэўных, і немалых, ахвяраў, да якіх электарат, калі не сказаць нацыя, не былі падрыхтаваныя — не зважаючы на тое, што да тых ахвяраў быў гатовы Зянон Пазьняк. І гэта давала надзею. Не кожная нацыя мае такіх лідэраў, хоць, як вядома, лёс іх заўсёды трагічны. Што ж да Беларусі, дык увесь яе лёс трагічны, і ў гэтым мне бачыцца пэўная адэкватнасць лёсаў краіны і Зянона Пазьняка".

Але будзем верыць, што вызначаную Богам меру трагізму Беларусь хутка вычарпае, і будучыня яе народа, як і лёс Зянона Пазьняка, складзецца шчасліва і годна.

**Сяргей НАВУМЧЫК.**

*Прага*

ШЧЫРА

## У цішы над зямлёй...

*Паважаная "Народная воля"! Гады са два таму вы распавялі пра кнігу паэзіі Зянона Пазьняка "Глёрыя Патрыя", якая тады выйшла ў свет і вельмі мяне зацікавіла. Але колькі ні шукаў яе па кнігарнях, бібліятэках — безвынікова. Крыўдна, што дагэтуль не знаёмы з яшчэ адной — творчай гранню асобы палітыка і мысліцеля, адданага сына Беларусі, непахіснага змагара за ўвасабленне нашай Нацыянальнай ідэі — годную будучыню незалежнай, дэмакратычнай Бацькаўшчыны.*

*Гэтымі днямі ў Зянона Станіслававіча — 60-гадовы юбілей. Хацелася б шчыра, з усёй цеплынёй сэрца павіншаваць яго з гэтай нагоды, пажадаць добрага здароўя і нязгаснай энергіі дзеля здзяйснення нашай агульнай мары. Можа быць, там, у змушаным расстанні з Радзімай, ён адчуе гэтую цеплыню — роднай зямлі, сяброў, знаёмых і незнаёмых людзей, што схіляюцца перад мужнасцю і вышынёй духу незвычайнага, светлага Чалавека, які ўжо ўвайшоў у сучасную гісторыю Беларусі (падабаецца гэта каму ці не).*

*А да рэдакцыі ў мяне просьба — згадаць вядомую прыказку "Лепш позна, чым ніколі". Не надрукавалі чамусьці ў свой час хоць колькі вершаў Зянона — мо зробіце гэта зараз? Няўжо там такая крамола, што цэнзура не прапусціць?*

**Ягор НАЗАРУК,**
**чытач "Народнай волі".**

*Брэст.*

### Ад рэдакцыі

Шаноўны сп.Назарук, з прыемнасцю выконваем Вашу просьбу. Чытаць і перачытваць кнігу вершаў і фатаграфій "Глёрыя Патрыя" ("Хвала Бацькаўшчыне") — сапраўдная радасць і эстэтычная асалода. *"Тыя словы,* — прызнаваўся аўтар, — *што пісаў для сябе проста так, і старыя фатаграфіі, дзе белыя вішні, дарогі ды шэры пыл",* сталіся шчымлівай лірычнай споведдзю надзвычай тонкага, трапяткога душою мастака, які склаў ціхі — і тым больш пранікнёны — гімн роднай, бясконца любай беларускай зямлі. Гэтая кніга, прысвечаная памяці дарагіх, але ніколі не бачаных бацькі і дзеда, складалася ў далекаватыя ўжо 80-я гады. Але з цягам часу, як гэта і бывае з сапраўдным мастацтвам, яна толькі набывае яшчэ большую глыбіню, паліфанічнасць сэнсу і гучання. Чаму? Вось выказванне на гэты конт народнага паэта Рыгора Барадуліна: *"Паэзія Зянона беларуская сваёй душой, сваімі вачыма, сваімі вуснамі... бо на алтар беларускасці паклаў сваё жыццё Зянон".*

...Ён народжаны паэтам-лірыкам, а мусіў стаць палітыкам, трыбунам — так распарадзіліся час, гісторыя, жыццё. "Сапраўднае аблічча" — гэта назва колішняй кнігі палымяных публіцыстычных артыкулаў і выступаў стваральніка і лідэра Беларускага Народнага Фронту, палітыка Зянона Пазьняка. Але ў кнізе паэта Зянона "Глёрыя Патрыя" — сапраўдная існасць чалавека з пяшчотнай мастацкай натурай. І разам з тым — нязломнасцю духу і адданасцю Радзіме.

Што "крамольнага" ў гэтых вершах — мяркуйце самі. Калі "крамола" ў разуменні сучасных улад — сыноўская любоў да сваёй зямлі, то тады абсалютна ясна, чаму гэтая кніга лірыкі была выдадзена невялікім тыражом не ў Мінску, а ў Вільні і пры перавозе цераз мяжу, папросту "рэквізавалася". Так што не надта многія аматары паэзіі сталі яе шчаслівымі ўладальнікамі ці хаця б чытачамі. Дзіва што Вы не можаце яе знайсці, сп.Назарук.

Але адзін верш, змешчаны ў гэтай кнізе, Вы ўсё ж, пэўна, у свой час чулі, толькі не ведаеце, каму ён належыць. Бо нават, на пачатку 90-х, калі па Беларускім радыё перадавалася адна з найлепшых песень маэстра Ігара Лучанка "Авэ, Марыя", у цудоўным выкананні ансамбля "Сябры", імя аўтара песеннага тэксту (у арыгінале — "Гучанне анёльскага голасу") не называлася ніколі. Самі сабой, нібыта, напісаліся гэтыя простыя і такія пранікліывыя, з запаветнага прадоння душы словы...

А мо і праўда, яны нарадзіліся дзесьці ў нябёсах, "у цішы над зямлёй" — з самога беларускага паветра, беларускіх трывог і надзей?

*Там, дзе сосны шумяць,*
*там дзе хмары бягуць,*
*Хай гучыць над Зямлёй, над краінай маёй:*
*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*

Гучыць і будзе гучаць доўга-доўга!..

*Зянон*

## Хвала Бацькаўшчыне!

*(З кнігі «Глёрыя Патрыя»)*

*Мілая Радзіма! Ты — уся мая памяць. Усё, што бачыў і пражыў за жыццё, усё, што пра Цябе чуў і чытаў і нават уяўляў — усё са мной. Ты, такая вялікая і прыгожая, перапоўніла маё сэрца і маю галаву. Калі назаву Цябе — белыя воблакі над Гаўёй і празрыстая плынь, дзе жывуць серабрыстыя рыбы, цёплае лета ў шуме вады і паўдзённых вятрах, вечны травень у квецені груш і звон ... звон касцельны над палямі плыве да віленскіх сцен у маю калыску...*

*Глёрыя! Хвала! Хвала цвітучаму дрэву! Хвала зямлі і людзям, што, нібы цвет пад вятрыскам, ападалі ў Цябе, у гоні Твае пад Пагоняй, на сцяжыны Твае пад сцягамі, у травы Твае за свабоду...*

*Вечнай памяці палеглых і закатаваных бацькі Станіслава і дзеда майго Яна, якіх ніколі не бачыў — прысвячаю...*

### Святло ў душы

*Мне мроіцца белая вішня*
*На нашым двары*
*І месяц у хмарах*
*Над шпілямі вежаў.*
*Ціха ўспыхнуў ад зоркі след*
*І расплыўся ў сіняй гары.*
*Помню пра гэта*
*ў зімовай начы.*
*Калі*
*ветах*
*плыве*
*ў вакне.*

*1981.*

### Дарога

*Хаваецца сонца за млын,*
*За ліпы старыя і сад,*
*Асвятляе рудую мятліцу*
*На зараслай, забытай дарозе.*
*Медным бляскам блішчыць,*
*Адліваецца семем льняным*
*У чырвоных праменнях сухая трава.*
*Не пазнаць. Зараслі дзірваном каляіны.*
*Але чуецца мне тарахценне калёс*
*І званочкаў срабрыстыя бомы,*
*Калі сонца заходзіць за сцішаны плёс*
*І цені бягуць па дарозе.*
*Вяртаюцца продкі з вайны і палёў,*
*З далёкіх краін і паходаў,*
*Ужо тысячу год усё ідуць у нябыт,*
*Ужо тысячу год усё ідуць у маўчанні,*
*Агінаючы постаць маю,*
*Быццам камень вада,*
*Быццам рэха ў самотным гуканні...*
*Пакуль пена з-пад млына*
*Сцячэ ў акіян,*
*Перамелецца жыта ў жорнах.*
*Пакуль сонца ўзыдзе*
*З-пад цемені хмар,*
*Ператворыцца ў цень мая постаць.*

*1983.*

### Вяртаюся на Беларусь

*У ветраны, люты, сцюдзёны мароз*
*Барвовы світанак навіс над вакзалам.*
*Вось пад'едзе зялёны настылы цягнік,*
*Ах, мой слаўны цягнік!*
*І паеду, паеду ў сваю старану.*
*Не бяда, не бяда, што мяне не чакаюць.*
*Буду верна сядзець ля вакна.*
*У душы Твае песні спявацьму.*
*Прыляці, прыляці, сіваронка мая.*
*Прыляці, прыляці, мая памяць.*

*1988.*

### Чакаю бацьку з вайны

*Я заўсёды чакаў Цябе,*
*Але Ты не прыходзіў.*
*Вусны мае смяглі,*
*Моцна балела сэрца,*
*І я лічыў кожны яго стук,*
*Думаючы пра Цябе.*

*Ах, як павольна цікаў гадзіннік.*
*Так павольна, што я не вытрымаў*
*І заснуў,*
*Зняможаны ад чакання.*

*Ты прыйшоў да мяне ў сне*
*І сказаў казку:*
*"Раз у тысячу год прылятае сінічка*
*Да сіняга мора*
*І пробуе дзюбкай марскую ваду.*
*Калі сінічка вып'е мора,*
*Пройдзе адно імгненне вечнасці".*
*Я прачнуўся.*
*Але Цябе не было ні заўтра, ні потым.*
*Толькі час ляціць, як страла.*

*1981.*

### Развагі для сябе

*Каб адчуць паўнату жыцця,*
*Трэба бачыць*
*Блакітнае неба,*
*Зялёную траву,*
*Цякучую ваду,*
*Жанчыну ў прыроднай красе.*

*Каб адчуць красу нацыі,*
*Паглядзі на дзяўчат*
*У народным убранні*
*На лузе квяцістым.*

*Каб адчуць сутнасць духу,*
*Роднай мовы мелодыю слухай.*

*1983.*

### Кроў чалавецтва

*Ні адна ідэя*
*Не можа быць справядлівай,*
*Што ўсталявана*
*Праз праліццё крыві.*

*Закон: усё міне.*
*Але праз цемры часу*
*Кроў забітых прасочыцца*
*І змые бруд ідэй.*

*Застаецца адна,*
*Абмытая*
*Нявінную*
*Крывёй.*

*1982.*

### Гучанне анёльскага голасу

*(песнявы варыянт)*

*У цішы над Зямлёй, у эфіры начным*
*Голас чысты гучыць — так пяе херувім:*
*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*
**2 разы**

*На радзіме маёй ён, як сонца прамень,*
*Белы цвет веснавы і крыніцы струмень:*
*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*

**1 раз**

*Беражы, сцеражы нас у чорнай бядзе,*
*Я далёка, далёка ў лясной старане:*
*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*

**2 разы**

*Там, дзе сосны шумяць, там, дзе хмары бягуць,*
*Хай гучыць над Зямлёй, над краінай маёй:*
*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*

**1 раз**

*— Авэ, Марыя, грацыя плена...*
*Coda:*
*— Авэ, Марыя...*

**На здымку:** *родны дом (Суботнікі).*

**Фота Зянона ПАЗЬНЯКА.**

ПУЛЬС

### 472 мільярды на наступствы чарнобыльскай катастрофы

У 2004 годзе на ліквідацыю наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС выдзелена 472 мільярды рублёў. Пра гэта паведаміў першы намеснік старшыні Камітэта па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў **Уладзімір Собаль**. Паводле яго слоў, урадавая пастанова, якая ўдакладняе выдаткі на ліквідацыю наступстваў чарнобыльскай катастрофы на гэты год, падпісана 21 красавіка.

Як патлумачыў У.Собаль, гэтыя сродкі размяркоўваюцца наступным чынам: больш за 30 працэнтаў (каля 150 млрд. рублёў) накіроўваюцца на мерапрыемствы па радыяцыйнай абароне насельніцтва, 52 млрд. — на забеспячэнне чыстай вадой, газіфікацыю і добраўпарадкаванне раёнаў, забруджаных радыенуклідамі, 104 млрд. — на аздараўленне насельніцтва і 82 млрд. рублёў — на харчаванне дзяцей у школах і вучылішчах, размешчаных у пацярпелым рэгіёне.

**Марат ГАРАВЫ.**

### У Ваенную акадэмію — па новых правілах

Працэдура прыёму курсантаў у Ваенную акадэмію Рэспублікі Беларусь сёлета некалькі змяніцца. Пра гэта паведаміла прэс-служба Міністэрства абароны краіны са спасылкай на інфармацыю начальніка галоўнай ваеннай ВНУ генерал-маёра Ігнацыя Місурагіна.

Паводле яго слоў, у гэтым годзе абітурыентам будзе дадзена права падаваць у прыёмную камісію вынікі цэнтралізаванага тэсціравання. Акрамя таго, падчас разгляду кандыдатур будучых курсантаў прыёмная камісія будзе надаваць павышаную ўвагу прафесійнаму адбору. "Вельмі важную ролю будуць адыгрываць такія фактары, як псіхалагічны стан абітурыента, яго матывацыя да службы", — сказаў начальнік Ваеннай акадэміі.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### 55 чалавек тэсты не здалі

Падчас платнага цэнтралізаванага тэсціравання па шасці прадметах за парушэнні правілаў яго правядзення былі выдалены 55 чалавек.

За парушэнні пры правядзенні тэсціравання па англійскай мове былі выдалены два чалавекі, па хіміі — тры, па фізіцы — 22, па біялогіі — пяць і па матэматыцы — 23 чалавекі. Не было парушэнняў на тэсціраванні па нямецкай мове. У параўнанні з 2003 годам колькасць такіх парушэнняў значна паменшылася. Тады падчас правядзення тэсціравання па чатырох прадметах былі выдалены 80 чалавек.

**Вольга АСІПЕНКА.**

### Ракетная брыгада перадыслакуецца

**Сем'ям афіцэраў абяцаюць даць кватэры**

У адпаведнасці з дырэктывай камандуючага Ваенна-паветранымі сіламі і войскамі супрацьпаветранай абароны Узброеных сіл Беларусі генерал-лейтэнанта Алега Паферава, 302-я зенітная ракетная брыгада перадыслакуецца з Мар'інай Горкі (Мінская вобласць) у Даманава (Івацэвіцкі раён, Брэсцкая вобласць).

Першы эшалон з тэхнікай і вайскоўцамі злучэння ўжо прыбыў на новае месца. Тут для афіцэраў і прапаршчыкаў, што праходзяць службу ў брыгадзе, падрыхтавана больш за 40 кватэр, месцы ў інтэрнаце, для салдат — кашары. Тэхніка пастаўлена ў боксы. Цалкам перабазіравацца на новае месца дыслакацыі ў Даманава 302-я зенітная ракетная брыгада павінна да 6 мая.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

### Лукашэнка ўзяўся за цыбулю

У 2005 годзе вытворчасць цыбулі ў Гомельскай вобласці неабходна павялічыць да 30 тысяч тон. Такую задачу паставіў Аляксандр Лукашэнка падчас наведвання 21 красавіка камунальнага сельскагаспадарчага унітарнага прадпрыемства "Запаветы Ільіча" Петрыкаўскага раёна, паведаміла прэс-служба прэзідэнта.

Паводле слоў А.Лукашэнкі, з краіны, што імпартуе цыбулю, Беларусь можа рэальна пераўтварыцца ў краіну-экспарцёра гэтай культуры з агародніны, забяспечыўшы пры гэтым і свае ўнутраныя патрэбы. Для экспарту ёсць перспектыўныя рынкі збыту, напрыклад Расія, Украіна і Польшча, якія ўжо сёння актыўна купляюць беларускую цыбулю.

Лукашэнка таксама паставіў задачу павялічыць удвая — да 800 га — пасяўныя плошчы зялёнага гарошку. Такім чынам, заявіў А.Лукашэнка, Беларусь мае рэальныя магчымасці ўвайсці ў лік лідэраў па экспарце цыбулі і зялёнага гарошку.

**Ірына ЛЕЎШЫНА.**

## ЧТО ПРОИСХОДИТ В МИРЕ

### 29 апреля Джордж Буш и Дик Чейни предстанут перед комиссией «9/11»

Президент США Джордж Буш и вице-президент Дик Чейни 29 апреля ответят на вопросы независимой комиссии, которая расследует теракты 11 сентября, сообщает Reuters со ссылкой на источник, "заслуживающий доверия". Это выступление было запланировано заранее, но точная дата официально до сих пор не была объявлена. О том, на какие вопросы предстоит ответить Бушу и Чейни, также неизвестно.

Ранее перед комиссией выступали генеральный прокурор США Джон Эшкрофт, бывший директор ФБР Луис Фри, бывший глава антитеррористического отдела ФБР Дейл Уотсон, а также советник президента США по национальной безопасности Кондолиза Райс. Комиссия рассчитывает закончить работу над докладом в июле этого года, после чего он будет передан администрации президента, которая намерена проверить доклад перед публикацией. Как сообщил председатель комиссии Томас Кин, Белый дом намерен удостовериться, что в тексте не попадут секретные сведения разведывательного характера.



### Книга рекордов Гиннесса осиротела

В Великобритании в возрасте 78 лет скончался основатель "Книги рекордов Гиннесса" Норрис Макуиртер. Он скончался в результате сердечного приступа во время игры в теннис у себя в поместье в английском графстве Уилтшир.

Норрис Макуиртер основал "Книгу рекордов Гиннесса" в 1955 году вместе со своим братом Россом, который погиб в 1975 году в результате покушения. Поначалу Книга, которую спонсировала пивоваренная компания Guinnes, регистрировала лишь охотничьи и спортивные рекорды. Однако потом братья переключились на регистрацию любых достижений человечества, пусть даже и весьма экстравагантных, таких как самые длинные усы и ногти, самый большой пузырь, надутый из жевательной резинки, или самый старый стриптизер.

За всю историю было продано более 100 миллионов экземпляров Книги, которую издавали в 37 языках. Популярность Книги настолько высока, что журнал Sports Illustrated ввел специальный термин "Гиннесс спорт", которым называют многочисленные попытки людей любыми способами попасть в списки "рекордсменов Гиннесса".

### Пентагону дадут команду: «Газы!»

Военные США в ближайшие недели проведут учения, распылив вокруг Пентагона невидимый нетоксичный газ. Это станет частью мероприятий, призванных повысить готовность военных к химическим и биологическим атакам. Об этом сообщили официальные представители американского военного ведомства. Мероприятие, названное "Щит Пентагона", призвано помочь в создании более продвинутой системы защиты Пентагона и его обитателей от газовых атак. В заявлении Пентагона говорится, что операция начнется в первых числах мая. В воздухе будет распылен бесцветный газ ($SF_6$), не имеющий запаха и не представляющий никакой опасности для здоровья человека. На него должны отреагировать датчики внутри и за пределами здания. Далее эксперты проследят, как перемещается газ по вентиляционной системе, и составят картину того, как может распространяться газ во время вероятной химической или биологической атаки.

Кроме того, по ночам во время учений над Пентагоном и вокруг него будет летать 30-метровый дирижабль, которому предстоит фиксировать изменения направления ветра и другие параметры окружающей среды.

### Мордехай Вануну: я символ свободного духа



Мордехай Вануну, в свое время раскрывший секретную ядерную программу Израиля, вышел на свободу после 18 лет тюрьмы.

Импровизированная пресс-конференция началась со слов: "Я — Мордехай Вануну, человек, рассказавший миру о ядерном оружии Израиля".

"Я очень рад, что я сделал то, что я сделал. Сейчас у меня нет никаких секретов. После того как была опубликована статья, все секреты кончились", — сказал Вануну.

"Я страдал 18 лет, потому что я христианин, если бы я был иудеем, ничего этого бы не было", — продолжил освобожденный.

Вануну рассказал, как агенты Моссада украли его в Риме в 1986 году и перевезли в Израиль. Вануну также обвинил администрацию тюрьмы, где он провел 18 лет, 12 из которых — в одиночной камере, в том, что она полностью подчинена Моссаду.

"Я символ свободного духа. Со мной произошло то же самое, что с Советским Союзом. После 70 лет коммунистического режима люди там все равно чувствовали себя свободными. Я провел в тюрьме 18 лет, но я свободный человек", — сказал Вануну.

Вануну заявил, что Израиль должен отказаться от ядерного оружия и предоставить свои ядерные объекты для инспекции МАГАТЭ.

По словам Вануну, в последний месяц перед освобождением агенты Моссада пытались сломить его. "Они изолировали меня, отняли у меня все вещи, и все сотрудники тюрьмы были с ними заодно", — рассказал он.

"Я хочу покинуть Израиль и начать свою жизнь заново, я хочу уехать в США и заняться историей", — на этих словах закончилась пресс-конференция.

Многие израильтяне считают Вануну предателем, однако есть у него и сторонники. У здания тюрьмы собралось около 200 активистов международного антиядерного движения, которые встретили его как героя.

Выкрики из толпы звучали разные — от "Смерть Вануну" до "Вануну — герой".

Израильские власти говорят, что 50-летний Мордехай Вануну, намеревающийся покинуть страну, до сих пор располагает секретной информацией.

Израиль ввел целый ряд ограничений для бывшего ядерного физика. Ему не выдадут заграничный паспорт, запретят появляться вблизи морских портов и аэропортов и без разрешения встречаться с иностранцами.

Бывшему ученому запрещено давать интервью средствам массовой информации. Пресс-конференция у тюрьмы была исключением.

По распространенной оценке, у Израиля имеется около 200 ядерных боеголовок.

# Чарнобыльскай мяжы быць не павінна

**Юры ХАДЫКА,**
**намеснік старшыні Партыі БНФ**

Упершыню гадавіна аварыі на Чарнобыльскай АЭС была адзначаная маўклівым мітынгам на плошчы Леніна 26 красавіка 1989 года. Цішыню парушалі толькі ўдары званоў. У гэтым быў вялікі сімвалічны сэнс. Вынікі катастрофы былі строгай таямніцаю, хаця з розных бакоў — ад навукоўцаў і медыкаў, з пацярпелых раёнаў — даходзілі вельмі трывожныя весткі. І тады Сойм БНФ "Адраджэньне" прыняў рашэнне восенню правесці масавую акцыю "Чарнобыльскі шлях", каб прымусіць улады надрукаваць мапы забруджаных раёнаў і публічна абмеркаваць захады па абароне насельніцтва краіны.

Першы "Чарнобыльскі шлях" адбыўся 30 верасня 1989 года. Каб атрымаць дазвол на яго правядзенне, мне давялося выступаць на пасяджэнні Савета міністраў БССР. Сацыяльны ўздым быў такі магутны, што пасля канфузу з разгонам забароненага мітынгу каля Маскоўскіх могілак увосень 1988 г. камуністычны арэапаг не насмеліўся забараніць гэтую акцыю.

Шэсце праходзіла па праспекце Леніна ад гадзіннікавага завода да самага Дома ўрада. У ім прыняло ўдзел не меней 40 тыс. чалавек, як пісалі газеты. У шэрагах дэманстрантаў былі дэлегацыі з пацярпелых раёнаў. Быў Алесь Адамовіч, які прыляцеў з Масквы. На мітынгу выступаў віцэ-прэзідэнт АН СССР акадэмік Веліхаў. Навукоўцы як саюзнай, так і беларускай Акадэмій навук тады востра перажывалі народную трагедыю. Адзін з аўтараў няўдалага праекта АЭС малады акадэмік Лягасаў скончыў жыццё самагубствам.

Арганізатары шэсця, зразумела, былі асуджаныя за затрымку руху тралейбусаў. Але акцыя дала плён. З таямніцы была сарваная заслона. Мапы забруджаных земляў былі надрукаваныя, і ў грамадстве пачалася дыскусія. Яна была вельмі вострая, хаця ў той час яшчэ не было вядома, што радыяцыйныя хмары на галовы сваіх сем'яў апускалі па загадзе з Масквы лётчыкі Гомельскага авіяатраду.

Але былі шматлікія сведчанні аб росце захворванняў у тысяч ліквідатараў і механізатараў, што працавалі на заражоных палетках. Пачалі масава хварэць і дзеці.

Тут і высветлілася, што не ўсе навукоўцы падобныя да Лягасава і здольныя суперажываць пацярпелым. Быў такі медыцынскі акадэмік Іллін, які сцвярджаў, што радыяцыя ў малых дозах карысная і прапагандаваў канцэпцыю "70 бэр за жыццё". Сутнасць гэтай канцэпцыі даволі простая. Яна сцвярджае, што верагоднасць памерці ад радыяцыі чалавеку, які атрымаў за жыццё апраменьванне на 70 бэр, вельмі малая. Скажам, роўная адной тысячнай. Гэта азначае, што ў невялікім калектыве працоўных на АЭС з тысячы чалавек, якія будуць там працаваць усё жыццё, ад радыяцыі памрэ толькі адзін чалавек. Такі выпадак можна наогул не заўважыць.

Іншая справа, калі малыя дозы пранікаючай радыяцыі ў памеры 70 бэр атрымліваюць 10 млн. чалавек. У гэтым выпадку ад радыяцыі памрэ ўжо 10 тысяч чалавек. І яшчэ болей, паколькі будуць нараджацца новыя людзі, якія з дзяцінства будуць спажываць радыяцыю з прадуктамі, атрыманымі на забруджаных землях. Менавіта гэтую палітыку праводзяць сёння беларускія ўлады, аддаўшы загад аднавіць сельскагаспадарчую вытворчасць на тых землях, якія былі адселеныя па рашэнні Вярхоўнага Савета 12-га склікання.

Тады, на пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, дэпутаты парламенцкай фракцыі БНФ і беларускія навукоўцы здолелі дамагчыся таго, што злачынная канцэпцыя Ілліна была адкінутая. Была прынятая шырокая праграма па адсяленні людзей з дужа забруджаных тэрыторый і па забеспячэнні тых, хто застаўся на меней забруджаных, але небяспечных, чыстаю ежаю. Былі ўстаноўленыя льготы для ліквідатараў, што захварэлі, і для дзяцей, якія нараджаліся ў чарнобыльскай зоне.

Для гэтага планавалася выкарыстаць 31 млрд. руб., якія выдаткаваў Савет міністраў СССР для пераадолення наступстваў чарнобыльскай трагедыі ў Беларусі — краіне, найбольш забруджанай радыенуклідамі, прычым не па сваёй віне. Аднак пасля распаду СССР урад Расійскай Федэрацыі чамусьці вырашыў, што гэтыя грошы не трэба выплачваць Беларусі. Што гэты доўг у памеры некалькіх дзесяткаў мільярдаў долараў не датычыць міжнародных абавязкаў новай Расіі. Яна прызнала свае даўгі перад Францыяй і Англіяй, патрабуе вяртанне пазык СССР ад афрыканскіх і лацінаамерыканскіх краін, але нават не згадвае пра свой доўг "братняй" Беларусі.

Пакуль Лукашэнка зацята будаваў з Расіяй саюзную дзяржаву, чакаць ад яго, што ён успомніць пра гэты вялізны доўг Масквы, не выпадала. Але сёння, калі ягоны інтэграцыйны энтузіязм трохі астыў і ён адчуў, што такое газавы шантаж, прыйшоў час нагадаць пра гэтыя грошы. Лепш вярнуць іх, чым пазбаўляць ільгот хворых чарнобыльцаў і ўзнаўляць вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі на забруджаных землях. Колькі б ні змешвалі брудныя збожжа, малако і мяса з чыстымі, радыенукліды, якія ў іх патрапілі, нікуды, акрамя страўнікаў беларусаў, не трапяць. А гэта азначае, што людзі будуць паміраць ад радыяцыі, як і раней.

Апошнім часам Лукашэнка стаў ладзіць свае "чарнобыльскія шляхі". Не толькі грамадскасць, але і ўрад павінны памятаць гэтую змрочную дату. Зразумець яе сакральны сэнс. Чарнобыль радыяцыйны не павінен стаць мяжой падзелу ў грамадстве. Няхай агульнае гора, пастаянная небяспека дадуць нам сілы перамагчы Чарнобыль духоўны, эканамічны і палітычны.

*("Белорусские новости".)*

**ЭКСКЛЮЗІЎ**

*Як вядома, зараз у Беларусі знаходзіцца спецыяльная місія, у якую ўваходзяць прадстаўнікі Міжнароднай Канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП) і Міжнароднай арганізацыі працы (МАП). Місія вывучае сітуацыю з парушэннямі ў Беларусі правоў прафсаюзаў. Візіт міжнародных эмісараў працягнецца да суботы, 24 красавіка. Нагадаем, што ў выніку працы камісіі мяркуецца падрыхтаваць справаздачу, у якой будуць зроблены спецыяльныя заключэнні, а таксама парады беларускім уладам наконт таго, якія меры пажадана прыняць дзеля выпраўлення сітуацыі з правамі прафсаюзаў. Невыкананне гэтых рэкамендацый можа пацягнуць за сабой пэўныя міжнародныя санкцыі.*

*Па прылёце камісіі ў Мінск на мінулым тыдні яе прадстаўнікі адразу ж паведамілі, што не будуць мець афіцыйных сустрэч з журналістамі. Але для "Народнай волі" было, у рэшце рэшт, зроблена выключэнне. З карэспандэнтам газеты гутарыць 48-гадовы бельгіец польскага паходжання* **Янэк КУЧКЕВІЧ,** *які працуе ў брусельскім офісе Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў яшчэ з 1982 года.*

***Янэк КУЧКЕВІЧ,*** *дырэктар дэпартамента па правах прафсаюзаў Міжнароднай Канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП):*

# «Лукашэнка будзе ўтрымліваць уладу да таго часу, пакуль людзі Беларусі будуць дазваляць сабе цярпець рэпрэсіі гэтага чалавека»

**— З якой мэтай Вы завіталі ў Мінск, сп. Кучкевіч, якія Вашы ўражанні?**

— Я прадстаўляю ў гэтым працэсе сведкаў. На працягу многіх гадоў я вывучаў скаргі, якія тычацца парушэнняў правоў прафсаюзаў у Беларусі. Мае ўражанні, якія, натуральна, адлюстроўваюць пазіцыю маёй арганізацыі — Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў, падкрэсліваюць, што ўрад Рэспублікі Беларусь сапраўды сістэматычна парушае фундаментальныя правы незалежных прафсаюзаў. Мэта майго візіту ў Мінск — сустрэцца с прадстаўнікамі незалежных прафсаюзаў, абмяняцца поглядамі і ўзгадніць пазіцыі і паказанні, якія сведкі прадстаўляюць камісіі па даследаваннях Міжнароднай арганізацыі працы.



**— Наколькі я ведаю, пан Янэк, працэс барацьбы за правы прафесійных саюзаў для вас ужо чацвёрты. Так?**

— Так, я займаюся гэтай справай пачынаючы з 1983 года. Мой першы працэс тычыўся Польшчы пачатку 1980-х гадоў, потым я ўдзельнічаў у разглядзе справы дыскрымінацыі этнічных меншасцей у Румыніі напрыканцы 80-х — пачатку 90-х гадоў, затым Бірма. Беларусь для мяне мае чацвёрты нумар. І гэта першы працэс, дарэчы, калі наша канфедэрацыя выкарыстоўвае досвед сведкаў. Што тычыцца Вашага пытання, то я б не называў тэрмінаў накшталт "перамога" ці "параза"...

**— А якое правільнае слова, каб характарызаваць Ваш поспех у доказе віны ўрада ў парушэнні нечых правоў?**

— Паспяховы вынік нашай справы можа прывесці прыкладна да такой фармулёўкі: *"Камісія па даследаваннях Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) прызнала, што абвінавачванні супраць ураду Беларусі ў парушэнні правоў прафсаюзаў пацвердзіліся, а рэкамендацыі МАП для ўраду гэтай краіны знайшлі месца ў заканадаўчых зменах у адпаведнасці з міжнароднымі стандартамі".* У гэтым сэнсе можна сказаць, што мы выйгралі папярэднія тры працэсы.

**— Якая была рэакцыя, напрыклад, урадаў Польшчы і Румыніі на вердыкт Міжнароднай арганізацыі працы, калі правы ў гэтых краінах былі прызнаныя парушанымі?**

— У Польшчы тагачасны ўрад адмовіўся ўдзельнічаць у пасяджэннях камісіі па даследаваннях. Калі ж МАП надрукавала сваю справаздачу, настрой урада генерала Ярузельскага быў настолькі сапсаваны, што яны адразу ж вывелі Польшчу з шэрагаў МАП. Калі ж, у рэшце рэшт, Польшча вырашыла вярнуцца туды праз тры гады, Міжнародная арганізацыя працы прымусіла гэтую краіну плаціць членскі ўзнос у памеры сямі мільёнаў долараў за ўвесь тэрмін адсутнасці ў гэтай міжнароднай арганізацыі. Гэта было пэўнай санкцыяй за дэмарш тагачасных польскіх уладаў.

У Румыніі ўрад з самага пачатку адмовіўся ўдзельнічаць у працэсе, які пачаўся ў чэрвені 1989 года. Урад спрабаваў "заткнуць рот" камісіі па даследаваннях МАП і даказваў, што нібыта ўрад Румыніі — гэта дэмакратычны ўрад, які дзейнічае ў дэмакратычнай краіне і, маўляў, няма патрэбы запрашаць ніякія камісіі. МАП, наадварот, загадала сваёй камісіі па даследаваннях працягваць работу ў Румыніі. Урад спрабаваў пераканаць МАП выкарыстаць гэтыя грошы на трэнінгі ці семінары, таму што камісія па даследаваннях — гэта дастаткова дарагая рэч. У Румыніі яе праца каштавала каля 500 тысяч долараў. Але даследаванні былі працягнуты, і ўрад Румыніі, у рэшце рэшт, быў прызнаны вінаватым у парушэнні правоў венгерскіх і цыганскіх меншасцей.

**— Давайце вернемся да Беларусі. Аляксандр Ярашук, лідэр Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў, у інтэрв'ю "Народнай волі" параўнаў даследаванне Міжнароднай арганізацыі працы з судовым працэсам, у якім ёсць і абвінаваўца, і абвінавачаны, і сведкі... Ці падтрымліваеце Вы такую думку?**

— Ярашук правільна разважае. Гэта своеасаблівы суд на рынку працы. Ён, канешне, адрозніваецца ад суда над крымінальнымі злачынцамі. Але гэта таксама суд. МАП з часоў свайго заснавання ў 1930 годзе 20 разоў склікала камісію па даследаванні парушэння правоў чалавека. Зараз гэта адбылося ў дваццаць першы раз, і разглядаецца беларуская справа. Вы бачыце, што МАП прыбягае да стварэння спецыяльнай камісіі па даследаваннях у выключных выпадках. Гэта азначае толькі адно: у Беларусі сапраўды ёсць праблемы. Калі ўжо камісія склікана, то справа гэта сур'ёзная, і ў Беларусі існуюць сур'ёзныя парушэнні міжнародных норм. Камісія па даследаваннях МАП функцыяніруе як сапраўдны міжнародны суд. Члены камісіі — юрысты вельмі высокай міжнароднай кваліфікацыі, якія маюць высокую міжнародную рэпутацыю ў сваёй сферы. Яны нават апранаюцца, як суддзі міжнароднага суда ў Гаазе. Таксама адзначу, што яны незалежныя ад Міжнароднай арганізацыі працы, яны не з'яўляюцца структурай МАП і таму абсалютна аб'ектыўныя.

**— А якая роля ў гэтай справе Вашай арганізацыі — Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў?**

— Мы выступаем як абвінаваўчы бок, як пракурор, я сказаў бы. Урад Беларусі не паважае правы прафсаюзаў, правы чалавека. З іншага боку, мы вельмі спадзяёмся, што ён, гэты ўрад, будзе паводзіць сябе ў цывілізаванай манеры і не будзе пераследаваць тых грамадзян Беларусі, якія выступаюць у якасці сведкаў у гэтым працэсе. Калі нейкія адмоўныя захады з боку ўрада Беларусі будуць усё ж такі заўважаны, гэта будзе вельмі і вельмі цяжкім парушэннем міжнароднага права.

**— І які будзе Ваш адказ у такім выпадку?**

— Мы зробім усё, што ў нашых сілах, каб дамагчыся ад ўрада Беларусі, каб той нарэшце пачаў паважаць правы працоўных і дзейнасць арганізацый, якія гэтыя правы адстойваюць.

**— Якога кшталту ціск можа ажыццяўляцца і якія наступствы могуць быць для беларускага боку?**

— Наступствы магчымых высноў камісіі па даследаваннях МАП пра тое, што правы прафсаюзаў у Беларусі сістэматычна і масава парушаюцца — асабліва палажэнні нумар 87 і 98, якія Беларусь ратыфікавала, — у асноўным палітычныя. Гэтыя высновы МАП могуць быць выкарыстаны на любым міжнародным форуме, дзе ўдзельнічае Беларусь, а гэта і Міжнародны валютны фонд, і інстытуты Еўрапейскага Саюза, і Савет Еўропы. Гэта вельмі дрэнна для міжнароднай рэпутацыі краіны, калі яе крытыкуюць на такім высокім міжнародным узроўні — на ўзроўні камісіі па даследаваннях Міжнароднай арганізацыі працы. У Бірме, напрыклад, камісія абвінаваціла ваенную хунту, якая правіла ў краіне, не толькі ў парушэннях правоў прафсаюзаў, але і ў злачынствах супраць чалавечнасці. Быў зроблены ціск на хунту...

**— А якія наступствы могуць быць для простых людзей?**

— Простыя людзі, на мой погляд, не пацерпяць ад рашэння Міжнароднай арганізацыі працы. Але ўпадзе давер да беларускага ўрада з боку міжнароднай супольнасці, значна пагоршыцца міжнародная рэпутацыя ўрада і прэзідэнта Лукашэнкі. Вы ведаеце, што камісія па правах чалавека ААН нядаўна прыняла жорсткую рэзалюцыю па Беларусі. У будучым годзе, калі сітуацыя ў вашай краіне не зменіцца, камісія ААН, хутчэй за ўсё, дадасць параграф і пра парушэнні правоў прафсаюзаў. Іншыя міжнародныя структуры будуць таксама праінфармаваны пра справаздачу МАП, што паўплывае і на бізнес-зносіны міжнародных прадпрымальнікаў з Беларуссю.

**— Калі Вы — пракурор, як Вы выказаліся, то на якім вердыкце будзеце настойваць?**

— Вердыкт тут можа быць толькі адзін: беларускі ўрад вінаваты. І мы дакажам гэта.

**— Вы, спадар Кучкевіч, увесь час узгадваеце ў справах парушэнняў правоў прафсаюзаў беларускі ўрад і яго міністраў. Але нават каця ў Беларусі сёння разумее, што ніводзін міністр у нашым урадзе абсалютна нічога не вырашае. У нас прымае рашэнні толькі адзін чалавек, і Вы ведаеце гэтага чалавека...**

— Мы даводзім да камісіі па даследаваннях МАП таксама той факт, што сапраўды рашэнні прэзідэнта Лукашэнкі парушаюць міжнароднае заканадаўства, міжнародныя дамоўленасці, нацыянальную Канстытуцыю, законы, статут аб прафсаюзах... Так, мы гаворым камісіі МАП, што фактычна ў Беларусі кожнае рашэнне супраць незалежнага прафсаюзнага руху ідзе ад прэзідэнцкай адміністрацыі і самога прэзідэнта.

**— Калі ні з боку ўрада, ні з боку Лукашэнкі, як гэта было раней, не будзе ніякай рэакцыі, ці не азначае гэта, што Беларусь будзе забыта як Міжнароднай канфедэрацыяй свабодных прафсаюзаў, так і МАП?**

— Не, гэта не так, Беларусь не будзе забыта. Мы працягнем падтрымліваць беларускі прафсаюзны рух. Калі ваш урад і прэзідэнт не будуць паважаць правы прафсаюзаў, яны будуць падлягаць крытыцы ўрадаў іншых краін — кожны год на спецыяльнай канферэнцыі МАП, якая з'яўляецца аналагам Генеральнай Асамблеі ААН. Дарэчы, цалкам магчыма, што праз эканамічны і сацыяльны савет ААН Беларусь будзе пазбаўлена месца ў гэтай уплывовай міжнароднай структуры на чарговай сесіі ГА ААН у Нью-Йорку. Тое ж самае можа адбыцца і ў іншых міжнародных структурах ААН.

**— Ці можаце параўнаць цяперашнюю сітуацыю ў Беларусі з сітуацыяй у Польшчы часоў "Салідарнасці"? І дзе, на Ваш погляд, яна больш складаная, не гаворачы толькі пра правы прафсаюзаў, а наогул?**

— Цяжка параўноўваць вельмі розныя сітуацыі. Абедзве сітуацыі акружаў розны гістарычны кантэкст, розныя моманты развіцця цывілізацыі ў розных частках свету. Што іх аб'ядноўвае, дык гэта тое, што і ў Польшчы часоў Войцэха Ярузельскага, і ў Беларусі часоў Аляксандра Лукашэнкі сітуацыя вельмі складаная і небяспечная. Напружанасць, якая існавала ў тагачаснай Польшчы, у адрозненне ад сённяшняга часу ў Беларусі, мацавалася на ідэалагічнай глебе. Ваенны ўрад Польшчы адказны за забойства каля 130 актывістаў "Салідарнасці" і праваабаронцаў. У Беларусі ніводны прафсаюзны актывіст не быў забіты. Дзякуй Богу!

Падкрэслю, што я не гавару аб палітычных апанентах цяперашняга рэжыму ў Беларусі, я кажу выключна пра прафсаюзных актывістаў. Канешне, Ярашук з Адынцом пабывалі за кратамі кароткі тэрмін, але ніхто на доўгія тэрміны ў турме не быў асуджаны. У гэтым — адна розніца. Іншая розніца ў тым, што рэжым Лукашэнкі анахранічны ў гэтай частцы Еўропы. Гэта апошні рэжым абсалютнай улады ў Еўропе, які сістэматычна парушае фундаментальныя правы свабоды сходаў, свабоды слова, свабоды СМІ. Гэта вельмі аўтарытарны рэжым, які не можа належаць да XXI стагоддзя і, канешне, не можа належаць да гэтай часткі свету. Я не ведаю наогул той часткі свету, дзе рэжым Лукашэнкі быў бы натуральным.

**— Наколькі жыццяздольны, на Ваш погляд, гэты "апошні аўтарытарны рэжым у Еўропе" ў асяроддзі краін — членаў НАТО і Еўрасаюза?**

— Рэжым Лукашэнкі будзе існаваць роўна столькі, колькі людзі вашай краіны будуць верыць, что Лукашэнка можа працягваць прымяняць абсалютную ўладу без усялякай павагі да дэмакратычных прынцыпаў. Іншымі словамі, Лукашэнка будзе ўтрымліваць уладу да таго часу, пакуль людзі будуць дазваляць сабе цярпець рэпрэсіі гэтага чалавека.

**Гутарыў Алесь СІЛІЧ.**
**Фота аўтара.**

**СПОРТ**

## Дружба дружбай...

*28 красавіка нацыянальная зборная Беларусі па футболе правядзе на мінскім стадыёне "Дынама" (пачатак у 19.00) таварыскую гульню са зборнай Літвы.*

А вось наша маладзёжная зборная "адпрацуе" на працягу двух дзён аж два таварыскія матчы. Другі склад беларускай "маладзёжкі" згуляе 27 красавіка ў Смаргоні з маладзёжнай зборнай Літвы, а на наступны дзень першы склад памерыцца сіламі на мінскім стадыёне "Трактар" з равеснікамі са Швейцарыі.

Для нашай маладзёжнай зборнай гэта, можна сказаць, апошняя "прымерка" перад фінальным турнірам, які пройдзе ў Германіі. У сваёй групе 27 мая беларусы згуляюць з камандай Італіі, 29 мая — з харватамі, 1 чэрвеня — са зборнай Сербіі і Чарнагорыі.

## Пуцёвак прыбаўляецца. Спадзяёмся — не турыстычных

*Дуэт беларускіх сінхраністак — Крысціна Марковіч і Анастасія Уласенка — заваяваў на кваліфікацыйным турніры ліцэнзію на Алімпійскія Гульні.*

Не засталіся ў баку і нашы фехтавальшчыкі, якія таксама заваявалі пуцёўкі на Алімпіяду. На чэмпіянаце Еўропы, які праходзіў у Бельгіі, беларуская рапірыстка Віта Сільчанка заняла 1-е месца, а сабліст Дзмітрый Лапкес — 2-е.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

## Злапамятны Марат

*Расійскі тэнісіст Марат Сафін адпомсціў беларусу Максіму Мірнаму за паражэнне ў лютым у матчы 1/8 фіналу Кубка Дэвіса.*

У другім крузе турніру серыі "Майстарс" у Монтэ-Карла з прызавым фондам 2.425.500 еўра Марат выйграў у свайго візаві ў двух сэтах - 6:4, 6:3. Матч доўжыўся крыху больш за гадзіну.

Цяпер Максім Мірны цалкам засяродзіўся на выступленні ў парным разрадзе гэтага турніру, дзе летась разам з індыйцам Махешам Бхупаці стаў пераможцам. У той жа дзень "пасеяны" пад першым нумарам беларуска-індыйскі дуэт выйграў у французаў Жульена Бенто і Нікаля Маю - 6:1, 6:4 і выйшаў у трэці круг.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

# «А з гімнасткамі выступіць Кіркораў...»

**1—2 мая ў Мінску ў другі раз пройдзе Гран-пры «Belswissbank» па мастацкай гімнастыцы.**
**Традыцыйна — са спаборніцтвамі і шоу зорак сусветнай гімнастыкі.**

Спаборніцтвы пройдуць у аднаўленым пасля рэканструкцыі Палацы спорта. Як запэўніла галоўны трэнер зборнай Беларусі **Ірына Лепарская**, на дыван, які, да слова, днямі спецыяльна прывезлі з Германіі, выйдуць мацнейшыя гімнасткі планеты.

*"Як вы ведаеце, да Алімпійскіх гульняў засталося не так шмат часу, — расказала Ірына Юр'еўна. — У кожнай гімнасткі свой план і свая тактыка падрыхтоўкі да Алімпіяды. Але ў Мінск прыедуць усе мацнейшыя спартсменкі. Дамоўленасць на ўдзел у Гран-пры "Belswissbank" ужо паступіла ад расіянак Аліны Кабаевай і Ірыны Чашчынай, украінак Анны Бессонавай і Тамары Ерафеевай".*

Перад гледачамі, якім пашчасціць на ўласныя вочы пабачыць Гран-пры, выступяць і вядучыя беларускія гімнасткі — **Іна Жукава, Святлана Рудалава, Любоў Чаркашына, Валерыя Кірыльская...**

Дарэчы, рэжысёр-пастаноўшчык будучага шоу **Васіль Бізюк** як звычайна рыхтуе шматлікія сюрпрызы для гледачоў. Як сапраўдны творца, ён не выдаў ні аднаго сакрэта, але паабяцаў, што ўсе застануцца задаволенымі пабачаным. І звярнуўся да журналістаў: *"Спадзяёмся, што з вашай дапамогай Палац спорту будзе запоўнены пад завязку. Пішыце як хочаце, аднак глядач павінен прыйсці на гэта цудоўнае мерапрыемства, бо ўсё гэта робіцца менавіта для гледача. Можаце нават напісаць, што з гімнасткамі выступіць Кіркораў..."*

Наконт Кіркорава не ведаем, аднак дакладна вядома, што ўдзел у спаборніцтвах возьмуць як мінімум 24 спартсменкі з 14 краін. Іх прыезд запланаваны на 29 і 30 красавіка.



*Вось так гімнасткі запрашаюць гледачоў!*

У першы дзень Гран-пры "Belswissbank" гімнасткі будуць удзельнічаць у кваліфікацыйных спаборніцтвах, аспрэчваючы месцы ў фінальнай частцы турніра. А 2 мая будуць разыграны медалі ў чатырох відах практыкаванняў: з абручом, мячом, булавамі і лентай.

Па традыцыі свята мастацкай гімнастыкі завершыцца феерычным шоу зорак сусветнай гімнастыкі. У першым аддзяленні гэтага шоу выступяць удзельніцы турніра, а ў другім — лепшыя сілы беларускай мастацкай гімнастыкі.

Арганізатары спаборніцтваў на гэты раз вырашылі не праводзіць традыцыйны "Baby Cup", у якім бяруць удзел самыя маленькія гімнасткі. Справа ў тым, што гэтыя спаборніцтвы заваявалі велізарную папулярнасць і заслугоўваюць асобнай увагі. Па словах Ірыны Лепарскай, плануецца правядзенне першынства свету сярод 4-9 - гадовых гімнастак. Ірына Юр'еўна паабяцала, што "Baby Cup" абавязкова пройдзе і будзе прымеркаваны да 55-годдзя беларускай мастацкай гімнастыкі: *"Арганізацыяй турніра для самых маленькіх мы зоймемся пасля Алімпіяды-2004. Вельмі хацелася б, каб і спонсары не пакінулі ў баку гэта захапляючае спаборніцтва".*

Што да дарослага Гран-пры, то кошт білетаў на гэтае свята не будзе высокім. Пакуль невядомы дакладныя лічбы, але мяркуецца, што білет на шоу зорак будзе каштаваць недзе каля 10 тысяч рублёў, а на спаборніцтвы дарослыя змогуць патрапіць за 5000, а дзеці — за 2000 рублёў.

Паверце, відовішча — вартае таго!

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

